Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

№ 8 (28) —— ЖНІВЕНЬ 1928 г. —— № 8 (28)



## ЖНІВО

Пятро Глебка

*Як толькі самжу на хвілiначку вочы—*
*з над сьветлых лясоў і вазёр*
*ткуць сны залатыя у цёмныя ночы*
*далёкі вясковы узор.*

*Стаю і гляджу— на палеткі дзіўлюся:*
*у хвалях зялёных, шумлівых такіх,*
*хістаецца жыта—краса Беларусі—*
*цалуе калосьсем блакіт.*

*Як воку даступна—гляджу у прасторы:*
*ня бачу ні краю нідзе ні канца—*
*скрозь жыта красуе і сэрцу гаворыць:*
*— Прыдзі на радзіму сканаць.*

*Узор прападае... Ах, сны залатыя,*
*то-ж вы мне саткалі далёкі узор,*
*а дзе-ж тыя нівы, палеткі дзе тыя,*
*што, бачыў, ляжалі ад лесу да гор!*

*Я марам аддаўся і дрвінам паверыў*
*бо ведаю—гэта ня сон:*
*прасьцяг неабсяжны, далёкі бязъмерна*
*увесь патанае ў жытох і аўсох.*

*Шуміце, шчасьлівыя родныя нівы*
*пад ціхія шолахі-шэпты прысад,*
*красуй каласістае жыта шумліва*
*краіны савецкай краса.*

# Краўцы і чаляднікі

Лукаш Калюга

У гэтым баку людзі добра знаюць заўжды намружанага, прыгорбленага з густым шчаціньнем на барадзе і баках краўца Аляксандру. Добра шые—моцна і да чалавека адзежа прыстае. Па цэлым барвьдзей дасца, а па шве ні пусьціць у аго. Усяго толькі што марада, капарніб: самую драбязу мэдзіць, выразае, дамярае каб добра прышлася. Ня ў нос гэта тым людзям што скваркі зайздруюць, баяцца каб кравец лішняга для ні пабыў. Ганяць яны Аляксандру, што саўсім няўмека—ня шые, а вучыцца. Ганяць ды патом яго к сабе шыць пазываюць, калі ёсьць якая добрая работа: кажух, жакетка, брыварка ці бурка. За драбнейшую работу Аляксандра і брацца ня хоча. Няма калі яму носа ўцерці і ад буйнейшай. Каб уважыўся ды скідаў галіфэ, альбо таўстоўку на сорак складак, трэба добра, доўга папрасіць. І то толькі добраму чалавеку гэтакую ласку ён можа ўчыніць. З якім дык і гаварыць ня дасца.

Шчэ трэба ўмець як зарабіць годнасьць добрага чалавека. Трэба ня вельмі распушчаць язык. Горш паранай цыбулі, ня любіць Аляксандра калі дзе абярэцца разумнік гаспадар ды стане над каркам і дакладае: от гэтта так трэба, а гэнам вунь як—паправіць трэба. Тады звар'яціцца кравец. Лепш ні гавары болей, калі здагадаўся. Закіпіць, зарыміць, зачмыхае... Бяда! Гатоў усё падраць, парэзаць і сам з машынаю к другому пераехаць. А грошы за сапсаваны матар'ял ні прападуць: цераз людзей пэрашле. Больш знаць такога чалавека ні захоча. Ды і крыўда! Як сабе ні было, такі ён—майстар, ня гэта вучаны чалавек. Папусьціся толькі ўсякаму, дык ні кравец, а пэцкаль зробісься, стаць толькі кожнага слухаць. Вось якой Аляксандра натуры. Яму сьпярша раскажы што за моду ты прыставіць думаеш і папрасі «глядзі-ж, Аляксандрачка ці дзядзячка (гэта гледзячы па ўзросту каб добра было», а больш ані шэпні.

Усе добрые краўцы ў вёсках спрадвеку хадзілі шыць па хатах. Чыё шыецца, дык у таго і машына стаіць і сам кравец жыве яго чаляднікі, калі ад дому далёка. На гаспадарскіх харчох бяз ніякага ўгавору становяцца. Двум ад гэтага выгада—гаспадару і краўцу. Гаспадару наглядаць каб тавару пад крысо кравец ні падапхнуў, дамоў адыходзячы, вельмі вручна. Краўцу лішняя капейка на харчы нідзе ні валяецца, а ў гаспадара гэта не знак. Каторы чалавек ня хоча свайго траціць, каб лішні бавалак матар'ялу прападаў, дык увесь дзень і вечар, як час ёсьць, сядзіць у краўца над каркам. Распытуецца сяго-таго, розные дробязі свайго жыцьця прыпамінае, цікавымі прыгодамі хваліцца. І ўсё вочы сочаць, дзе ў таго рукі паварачаюцца, што робяць. А няма самаго гаспадара, дык гаспадыня, альбо малое на яго месцы сядзіць. Як малое—лепш: маўчыць хуць.

Ня любіць Аляксандра гаворкіх гаспадароў, глядзець на іх ня можа. Горш за ўсё агідна яму іх ласкавае абыходжаньне. Далікаціць, а за злодзея мае. Паскуда! Ня то, каб Аляксандру што сьцібіць хацелася—не, не такі чалавек. Падазроннасьць цяжка краўцу.

Сам Аляксандра, як шые, ні гаворкі чалавек. Ды і за сьняданьнем ці так за якою ядою, год з ім жыві, слова лішняга ні пачуеш. Што-б у хаце ні датваралася, што-б ні гаварылі—ён будзе ціханька сядзець сагнуўшыся над сваёю работаю: і ў той бок, здаецца, ні глядзіць, ні ўсьміхнецца ні разочку. Калі лішняе хто пачне перад ім з берагоў выліваць, дык яшчэ горш напружыцца, прамармоча:

— Толькі работы рабіць ні даюць.

А здаецца, што ні глядзіць ні навошта.

Калі ў гадзіну раз, сама больш—два ўкіне свае слова ў хатнюю мову, дык яно ня

Галоўлітбел № 25251. Менск. 2 друк. БДВ. Надпісаў 15.000

так, нешта значыць. Усьміхаецца неўзапамятку, сам сабе, а ні дзеля другіх.

Чаму? І жарты любіць. Толькі ні дае гэтага перад людзьмі, каб не забаўлялі, ад работы не адрывалі. Ніколі болей расказваць ні папросіць. І дапытвацца ня будзе, чужой мовы не пераб'е.

Які ён дома – хто яго ведае! От гэтага я знаў на рабоце.

Быў у мястэчку ўхвалёны кравец Вінцэнты. Меў невялічкую хатку на Загуменнай вуліцы. Было ў яго ўсяе гаспадаркі: пнёў пятнаццаць саду, а паміж яблын градкі паўскопваны—гуркі жонка садзіла. Мір народу ведаў яе нізенькую, шчупленькую, скарачом падперазаную. Абы кірмаш, дык і яна на месцы з каламашачкаю тупае каля свайго століка з салодкімі яблыкамі, дулямі-грушамі. Зазывае людзей, каб куплялі. Толькі заўніміся напроці Вінцэнціхі, куды ідучы, дык яна, калі расхваліць свой тавар—мусіш купіць. Не пасьпяшыцься сам падыйці, дык ні паляпуецца за рукаў, альбо за крысо падцягнуць, каб часу ёй ні сьціраў, доўга ні валаводзіўся і другім-жа трэба купіць. Пад осень агуркі з возам вывозіла. Як каму любя, і на копы продала й на дзясяткі, на капейку чатыры давала, калі каму трэба ўсьлед зьвесьці.

Сам Вінцэнты на каляды й на вялікдзень толькі дома быў. Урэдкаю калі й так заскочыць, каб грошы жонцы пакінуць, што зарабіў.

Чалавек быў высокі, плячысты, вусы хуць за вушы закладай, меў рукі мажнейшыя, як у каваля каторага. Да гаспадароў быў ласкавы, стараўся, каб дагадзіць. Надта-ж любіў зьбіраць грыбы ўвосень. Абы прайшла нядзеля, дык паснедае ў каго шые, папросіць сабе кашаля ці каробкі што сеюць і машэр у лес да самага змроку. Адных баравікоў прынясе. За глупствам усякім: казьлякамі, махавікамі ці варыстым грыбам нагінацца лянуецца. Месца ў сваім пасудку ня хоча займаць. Абходзіць за дзень увесь маладнёг, пасякі, стары лес. Пад кожнаю елкаю пагледзіць. Баравіку ні жыцьцё ад яго. Ніяк ні схаваецца. Абы шапачку з моху высадзіць, дык і ў Вінцэнтавай каробцы спыніцца. На кватэру прыдзе—пацярэбіць, просіць, каб на печы спаражнілі ды высушыць. Так, пакуль дамоў схадзіць зьбярэцца, поўну аброчную торбу іх насушыць. Узімку жонка на маністы наніжа ды ў кірмашныя дні носіць па месьці, продае.

Надта-ж любіў Вінцэнты парадак і спраўнасьць. Хай крышку, што зблышыць чаляднік — ні чакай дабра. Ох вымерае аршынам па галаве, па руках, па чым заловіць. Б'е і прыгаварвае:

— А ні псуй!

— А дзе твае вочы былі!

Калі хочыш, каб малым абышлося, дык ні аказаўся, цярпі і маўчы сьціхатою: бо больш заробіш. Ні перакор Вінцэнтаму.

У памяць Аляксандру Вінцэнтаў аршын. І цяпер бы здаецца пазнаў яго. Сьлізкі, гладкі, цяжкі, з нарэзамі, з крыткамі— усе вяршкі, чвэрткі зазначаны. Ня раз Аляксандра яго пападаў. Ой, ня раз! І каб аказаўся на гэта. Проста ні зьдзівіцца Вінцэнты, што за трывалага чалядніка папаў. Прабаваў калі за ніштo добра такі прыскабліць,—ану можа сваю натуру пакажа. Дык ці то па ём ці па сьцяне, каб вокам маргануў.

Паслушэнства й маўклівасьць.. Яно калі ўмеру, дык і добра, нават. Але Вінцэнты праз гэта аж стаў дадумляцца ці ні злуе чаго чаляднік, ці ні думае ён чым спасьцігнуць.

От на якія хітрыкі кінуўся стары чалавек, а так быў добры, гаворкі.

Чатыры гады Аляксандра хадзіў з ім па хатах. Чатыры гады з пад цішка прыглядаўся да работы свайго старшага майстра.

— Пакажэце вы мне, як гэта плечы ў жакетцы выкраіць, каб гладка прысталі,— нясьмела бывае акажыцца Аляксандра.

— Состарэеш хутка, калі змалада ўсё ўвазнаеш, брат ты мой,—жартамі той адкасьніцца.

— Мала ты вучыўся,—кажа,—каб гэта знаць.

— Налета,—дакларуе:—гэтаю парою будзеш ведаць.

Аляксандра чакае налета гэты пары. І тая пара прыходзіць. Авіяк нічога ні зменіць—хуць ты кол на галаве чашы

Сам праў сабе споздрыць кравецтва ня можа. Вінцэнты ізноў налета на гэту пару адкладае.

— Нічога, татачка, ні будзе,—Аляксандра бядуе дома. І на вуліцу брыдка ізці яму, на вочы сорам таму паказавацца, хто бачыў што гэтакі сам у сабе хлопец трэйці год выбывае і ўсяго старое, што будзе пераліцовацца, пара ды ірху на кажух выскрабае.

— Кіну... чорт яго будзе.

Тут маці давай угаваравацъ, прасіць:

— Аляксандрачка, а можа як і спанатрыш, а можа што і возьмеш у галаву. Слухай яго, будзь.

Колькі там тае зямлі дома: тры дзесяцціны на ўсю сям'ю. Дзед Аляксандраў як давалі зямлю пасьля паншчыны ў маскалёх быў. З войска пусьцілі, дык ня хапіла паўвалові, далі дзесяцціны за вёскаю тром чалавекам. Там і яго надзялілі. Ды хацелася-б каб хуць адзін семянін меў сякі—такі талент у руках, сам сабе хлеб зарабляў.

Баіцца Вінцэнты, каб чаляднік у яго куска хлеба ні адабраў, як сам жыць стане—сьцірае ему ўгоджаныя гады. Выбыў тры гады ён і невукам дамоў вярнуўся.

— Наўчыў, ёсьць за што падзякаваць, лае Аляксандру бацька Вінцэнта, сыскуючы сына.

— Што-ж ты яму зробіш, калі абух удаўся сваіх мазгоў ні ўставіць. Вялікі ўжо быў хлопец Аляксандра а сьлёзы на вачох накаціліся, гэта пачуўшы.

Тут зараз вайна пачалася. Узялі перш на прызыў, а ўсьлед і ў войска Аляксандру. У воінскага начальніка пытаюць што ўмееш рабіць. Перш хацеў ён стаіцца, а потым кажа кравец. Так і запісалі. Другіх у маршавыя роты гоняць, а яму пашанцавала, у швальню бяруць. Усю вайну там праваяваў. Фронту таго праклятага здалёк ня бачыў. Пярвушчым майстрам дамоў прышоў у сямнаццатым годзе.

Таму-сяму скідаў рукамі явую адзежыну. Носяць людзі і майстра хваляць. Дачуваецца праз людзей Вінцэнты, што яго даўнейшы чаляднік добрым краўцом з войска вярнуўся. Блізка шылі, дык неяк як сьвята зайшло шараю гадзінаю прыходзіць ён к Аляксандру. Застаў таго дома ў хаце. Давай тое, сёе распытавацца дзе быў, што чуў за гэтыя гады. На адыходзе і кажа:

— Што ты будзеш рабіць так без машыны. Хто табе шыць панясе. Аставайся, калі хочаш, ка мне памесячна. Будзем разам свой абход абшываць.

Аляксандру і наруку. Пакуль тая свая машына будзе, ды пакуль начыньне кравецкае хуць ні вялікае справіш. А так і грошы завядуцца і падвучуся лепш. Ён усё думаў, што Вінцэнты нямаведама які добры кравец. Лепш паду-чыцца думаў. А як цяпер паглядзеў, дык ён лепш за свайго старога ўмее.

Угадзіўся сабе некалькі мільёнаў у месяц на тыя савецкія грошы, што тады хадзілі. Толькі заплаціць Вінцэнты, дык ён усьлед жыта купіць пудоў колькі і ссыпле ў бацькі. Усё на машыну спараджаўся.

Так гадоў са тры яны разам шылі. А потым неяк хадзіла крываўка. Многа паклала людзей. Даўся і Вінцэнты. Пахавала жонка, паплакала. Бязьдзетныя яны. Ня патрэбна ні сыном ні дочкам бацькава машына. Старгаваўся Аляксандра з кабетаю і адкупіў машыну з усімі дакладам да яе. Крыху заплаціў адразу, а большую палавіну, як знаёмаму чалавеку, паверыла на пачакай, покуль грошай зашые.

Ад тых дат стаў ён пярвушчым краўцом на ўсю акулічнасьць. Ходзіць па хатах зіму—лета. Людзі як хваліць ня ведаюць.

— Добра.

— Моцна.

— Зграбна.

Язук Бліньнік помежня з Аляксандравым братам на пагулянца жыве. Зай-

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000

адросьціць суседавым заработкам. І ў яго зямлі толькі маскальская частка, як і ў Аляксандравага брата. Але таго чорт ні бярэ, каня добрага мае, у заработкі езьдзіць—калоды на вакзал турыць. А ў Язука і конь—дэрба, жыць трэба. Штогоду купляй хлеб ад каляд: свайго на далей ні стане. Патрэбна ні глядзіць ці ёсьць за што.

Хваляць людзі Аляксандраву работу. Ведае і сам Язук, што—добрая, няма чаго казаць.

Надумаўся: «аддам свайго сына за чалядніка, хай падвучыцца». Таго самага дня чорт падшахнуў жонцы пахваліцца, што добра-б гэтак было. Тэей толькі ў вушы ўнёс—ходу ні дае, сварыцца каб ішоў папытацца ці возьме.

Язук бы і сам схадзіў і папытаўся-б чаго трэба. Нашто над каркам у чалавека сядзець, сгліць дарэмна. Ці-ж ён ня бацька свайму Міхалюку, дабра ні жадае. Горш палыну паранага яму жончын доўгі язык.

Наперакор ёй кажа што йці нікуды ня трэба, начорта Міхалюку тое кравецтва і так хлеб будзе мець, калі работы рабіць ні валянуецца. А ўдругае: плату вялікаю пэўне, гэны мармыч (Аляксандра значыць) загародзіць, дык чорт яго і выстранчыць, в торбамі ні доўга пайці.

— Да схадзіў-бы ты, распытаўся-б, а тады-б чухаўся,—ні саступіць жонка, покі ле верх ні будзе. Такая упэўненасьць ёсьць у кабеты, што, каб ні яна, даўно-б размахлёрыў Язук гаспадарку, за яго гультайствам ды недаглядам што само-б ні прапала, ні згніло, суседзі-б расьцягалі. Усё баіцца каб сьмерць рана ня прышла, пакуль дзецям якi спосаб дасьць. Ні сароміецца казаць перад мужыком свае смутныя думкі, сваю трывогу.

Гэта ведаючы, Язук і патрапляе ўсё рабіць ня так, як жонцы думаецца. Калі што і патрэбна зрабіць, сам гэта ўжо даўно ведаў, але ўсё часу ня было, на другі раз адкладаў.

Хай жа жонка гэта самае загадае, дык скажа:

Пашла ты! Многа ты ў мяне ведаеш

Возьме дык, як на злосьць, ляжа на ложку, паляжыць крыху.

Тоей думаецца.

«Гультай. Ну ні да чога... Прапала я за ўбоінаю на век».

Давай на бацьку, на мацяру наракаць, што замуж самагцом выправілі. Чаму было ёй ні за парабка з двара пайці. Хадзіў-жа адзін, пытаўся каб пасватацца.

Дадзене бывале Язуку слухаць жончыны казані, дык ускіне кажух на плечы (калі на дварэ халаднавата) і шапку на галаву.

— Сьціхні ты болбацень. Разьлякаталася! Пайду... зраблю... Хай табе ў жываце робіць. «Гультай! Ну ні да чога»... зноў упэўнілася кабета, што яе перакапьне справядлівае.

Каб Міхалюка за чалядніка к Аляксандру аддаць гаварылася ў іх хаце даўно. Тады краўца поблізу нідзе ня было. На шляхта шыць яго забралі былі. Доўга там забавіўся покуль адшыўся. Тады адразачку ў хатнікі к Мікодыму бурку шыць ды яшчэ што з драбнейшага перабраўся з усею сваею снасьцю. Явучыха ўжо і забылася пра Міхалюкову благую долю, пасьля свaей сьмерці, бо каб не забылася—сама-б пабегла папытацца к Аляксандру, добра такі яго папрасіць.

А Язук успомніў аднаго дня свае ранейшыя намеры. Вечаркам, дома пасілкаваўшыся гарачай скрэбяной бульбы з масьлёнкаю, пашоў к Мікодыму.

Там бліжай к краўцу падсеў. Увесь вечар прагаманіў з гаспадарамі. Аляксандру ня мог дачакацца калі ён пойдзе за дзьверы, гэтак абрыдаў пытаючыся рознай рознасьці. Кравец што з большага эдкажа, а найбольш злоўчыць, прытвараючыся што пільнуючыся свaей работы, ні дачуў.

Доўга-доўга ладзіў Язук, пакуль выбраў час пабядаваць па Аляксандру што кепска яму адзаму без чалядніка.

— Усякую дрэбязь усё сам ды сам рабі, а то-б памагаты быў.

— Ня так паможа як сапсуе. Тольвкі каб людзі маракавалі.

— Яно й гэта праўда. Але-ж ня трэба ад першага разу даваць таго рабіць, дзе ад псотаў вялікі ўрон. Трэба патрошку прывучваць, каб і на чысьцейшай рабоце ні капыціўся.

Пасядзеў Язук яшчэ крыху, пагаварыў ды й кажа нарэшцэ:

— Аставайцеся здаровы!

Што так скупы на словы, ато Аляксандра адказаў.

— Пайдзі здароў!

Абы лопатня збыць з сваей галавы.

Ужо ва ўсіх хатах агне пагасілі. Дома чакалі—чакалі ды ўкруцілі лямпу, а самы спаць леглі. Траха сянец ні завалілі. Вось бы тады Язук папабразгаваў пакуль-бы дабудзіўся.

Прышоўшы ў хату ён перш-на-перш падкруціў агонь, а тады стаў распратавацца, разувацца, здуру крактаць гнучыся.

Міхалюк чуткі на сон—пачуў.

— Татка, дзе вы гэтак позна сядзелі?

— У Мікодыма.

— Кравец у іх яшчэ ні адшыўся?

— Шчэ.

Гаворка ў хаце, пабудзіла Язучыху. Шчэ добра ні раскурстаўшыся, пытаецца:

— Ну як? згадзіўся?

— Дзе ты бачыла!... табе цану калі загародзіць, і сок ні пацячэ.

— Колькі ж ён просіць?

— А табе ні канечне ведаць.

— Каб ты ні ведаў які заўтра дзень, —заздавала кабета. На хату спінаю абярнулася. Маўчыць.

Язук разаслаў анучы на чарэні. Кінуў у куток пад цыбулю штаны, кашулю, з сябе зьняўшы. У белым сходзіў задзьмуў лямпу. Падыходзіць к ложку.

— Тэ-э! Каціся к сьцяне. Разьляглася, як карова...

Цераз дзень, пасьля таго, ужо з поўдня пашоў Язук к Мікодыму. Кравец у таго шчэ ні адшыўся, Зноў уладзіўся бліжай сесьці каля Аляксандры. Гэты раз так папалася, што ня доўга бавячыся, сказаў чаго прыняў.

Аляксандра перш ні дачуў. Ціхінька абвідае сабе дзіркі на гузікі.

Язук другі раз папытаўся:

— Ну як будзе?

— Ня ведаю,—коратка адчапіўся ад назолы.

Ні дайшоў Язук у той дзень ніякага скутку. Дома нават і не прызнаўся, што быў у краўца.

Тольві Аляксандра, сеўшы вячэраць вось што пра яго Мікодымавым сказаў:

— Хваліць і ціхі, паслушны... А той Міхалючок самы першы падколак на вуліцы. І мне раз вочы пяском зьнячэўку засыпаў. Мусіць думаў, што сябар які... Няхай мае шчасьце, што ўцёк. Даўся-б я яму ў знакі!

Хто яго ведае, як Аляксандра-б даўся ў знакі. Ніхто ад яго гэтага ні бачыў.

Але прайшоў месяц, можа і болей— сустрэліся ізноў Алаксандра з Язуком.

— Ну як-жа будзе?

— Паглядзім.

Крыху памякчэў кравец. Казаў пасьля гэтага, у каго шыў:—от смала! Прысьляпіўся Язук каб сына ўзяў вучыць: праходу ні дае.

Падумаў, памяркаваўся і дае праказ цераз людзей, каб прыходзіў Язук гадзіць сына. Той толькі гэтага і чакаў. Ні доўга адкладаючы схадзіць у тую вёску, дзе шыў Аляксандра. Угадзіліся за першы год Язуку прыплаціць, другі—дарэмна шыць, а на трэці год, калі Міхалюк захоча, дык ужо астанецца пры Аляксандру за плату колькі варт будзе.

Аляксандра ціхенька шапянуў гаспадару, каб дзе барышу растарацца. Той зараз клікнуў большага свайго хлапчука. Загадаў к аднаей удаве зьбегаць.

— Вазьмі кажа кварту.

Так усё і ўладзілі. А з панядзелка стаў Міхалюк хадзіць у навуку.

Толькі за ёю ня вельмі ён і ўлягаў. Ні вялікая навука на кажуху старым латкі даць, альбо жаляска разадзьмуць. І работа ні цяжкая—адна забаўка. З напарсткам бяз дна ад першага дня сжоміў

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000

як абыходзіцца. Іголку завалакаць гэтак сама сьпяціялен.

Аляксандра майстар ашчодны. Ня хоча славы сваей згаціць. Ня любіць каб людзі зьвягалі, што рукавы тырчаць, ці ў плячах цесна. Свайму настаўніку, Вінцэнтаму пастрыбучае. Бо дай чаляднiку што лепшае свiдаць,—усёроўна зглуміць ад першых раз. Колькі ты ні паказай, ні дакладай як і што адно да аднаго падганяць трэба—ўсёроўна зблышыць, ня зробіць, як трэба.

Міхалюку і так добра. Гэта і найлепш, што занятку мала. Бывае што шыюць у каторай хаце, дзе адна а то і дзьве ці болей дзяўчат ёсьць. Саўсім тады выгада работы ў руках ня меўшы. Перавернецца сабе к рабоце плячыма, на хату вачыма ды выскаляецца, падражнюецца.

— Выскрабі ірху,—мармане Аляксандра убачыўшы, што Міхалюк гуляе, адкіне яму шматок аўчынкі.

Той ад гэтага ні адказен. Умее дзьве работы вараз рабіць. Рукі заняты сваім, а язык сваім. Толькі вочы ня ведаюць каму ў помачы быць, дзе патрабней—туды-сюды толькі вірк-зірк...

Калі, у каго шыюць, хата з кухняю, ды ў кухні дзяўчына ніштаватая мые адзежу ці так якою работаю занята, ды калі загадае Аляксандра ў жаляска вугольле набраць—тады лепшай выгады і хацець ня трэба. Нібыта Міхалюк ля ямкі нешкаецца з жаляскам... Ушчыкне спадціпіка, як аберніцца тварам—падмаргне, губамі смаргане, бы ўсьміхнуўся. Калі дзяўчына ні вельмі парсткая, ні надта асыкаецца, дык і цяпнуць гатоў, дзе змалку звык.

Уважаючы па Аляксандравай рабоце: калі ня надта скора жаляска патрэбна дык і ў «абнімахар» (Міхалюкава слоўца) гатоў пагуляць, дзьверы нізнарок нагою прычыніўшы.

— Дзе ты там прапаў?—злосны Аляксандра аказуецца ў хаце.

Чаляднік у кухні заняты, ня чуе.

— Пусьці,—просіцца дзяўчына,—няма часу. Бачыш ты які!..

Міхалюк усё свае песьні пяе, ні перасьціхае.

— Чаму ты такая ды гэтакая?! І грудзістая, і плячыстая і так на цябе зырнуўшы: мажкая дзяўчына. Чаму ў цябе шчокі адвісьлі?

— А пашоў ты! Ну і язычок, каб ён табе адсох да нядзелі.

Словы то сярдзітыя, але ласкава сказаны.

Прабуе і Міхалюк нарокам злаваць.

— Ховай божа цябе гэтак клясьці, а што каб тваё слова збылося?

— Палепшаў-бы.

Пашла ты!?

Тымчасам Аляксандра гукае мацней і власьней.

— Дзе ты там утапіўся?

Жаляска нагрэта. І Аляксандра прачакаўся. Даўно трэ' было прасаваць. Падбегам імчыць яго ў хату спозьнены Міхалюк.

Дзьверы адчыняюцца. Краўцу гаспадарская дачка відаць у кухні праз шчыліну. І ў той бок Аляксандра ні павірае і ня яго галы, здэцца, гэтак блазнаваць і прызіраць за маладымі. Ня верце яму—усё бачыць, усяго дасьледзіць яго цікавае крыху коснае правае вока хуць краткам, хуць з пад ільба. Ніза спусьціўшы над швівам галаву, хавае толькі свой сьмех на губах. Пытае ў Міхалюка:

— Ці ні к Атрахіму ты хадзіў па вугольля?

(А той Атрахім, нядэшлы чалавечак, саўсім у другім канцы жыве. Пасьмешышча людям з яго).

Міхалюк ні маўчыць. Ён апраўдаецца:

— Гэта-ж усё ні разгаравалася, дык разьдзьмухаваў.

Умее Міхалюк салгаць. Яшчэ і як умее!

Памаўчаў кравец ды і падцмакуе:

— Не! Табе трэба жаніцца—нічога так ня будзе.

Хацеў нешта чаляднік аказацца, ужо і рот быў расчыніў, але ні пасьмеў перапыніць ціхай і пераканальнай мовы краўца.

— Я пагавару з бацькам. Ён хутка...

Стане зіма. Толькі пашарэе на двары, калі і без агню цёмна шыць і паліць яшчэ няма на што,—на гадзінку ні болей зьбяжыць Міхалюк на сяло. Пагуляў-бы і даўжэй, але ўсё на свайго краўца ашчаджаецца: балзно, каб ні прагнаў. І так ужо разоў два падпускаў шпількі, раскушаваў як мае быць, толькі пажаваць Міхалюву аставалася. З ім і ня шутай! Калі што скажа, дык і зрабіць гатоў. Сьмяяцца таварыства будзе, як тэрміну ні дабыўшы, вернімца дамоў. Вось чаго боязно!

Паўтара сельсавета знаюць Міхалюка. У кожнай вёсцы, дзе шыў Аляксандра, маладзеж таварышкуе з ім. Дзяўчата дзе зьбяруцца з кудзеляю, дык, як Міхалюка ўгледзяць, песьню пяюць:

— Міхалюк, Міхалюк!
Пайдзем у вапенькі.

— Ні хочу, ні люблю!
Я яшчэ маладзенькі.

Ну як ні падражніцца з такою яшчарыцаю якую добра знаючы, дык і пагатоў мусіш.

Круга сьвету знаюць Міхалюка. Чаму ня знаць? Што другі год пашоў, як з Аляксандрам па людзях ходзіць. А шыць ані ні бярэцца. Толькі нядаўна на машыне пачаў крыху ў лукатві страчыць.

Ат! Што бядаваць. Пакуль іці абучацца, неяк навучыцца на штодзень шарачковую куртку скідаць. А пажыве далей—налажыцца болей.

Вёо. Скварцы.

---

# Пастух

Яўхім Кохан

Алейнай скалкай сонца йльоьніца,
Зьвініць пчалiная ціша
Застыла ў здромнай у намітцы
Мая бяськечная душа.

Павольна ліжуць луг каровы
Пад шум шурпаты плаўкіх губ.
Гудзе назойліва дуброва,
Маўчыць панураваты дуб.

Сяджу пад шапкай жоротніх кудраў
Яго курчавага гальля,
А ён глядзіць прарокам мудрым,
Як ціха псьціцца зямля.

З маёй жалейкі сьпеў отруменіць,
Як хвалі веснавой ракі.
Перада мной, як лятуценьні,
Танцуюць цёлкі ды быкі.

Ну, ці ня міла, ці ня люба
Глядзець на вобраз іх жывы
З-пад яцыганенага дуба
З абоймаў вабкае травы?

Мне міла ўсё маё зямное,
Затым так вабіць шыр зямлі
З авабй новаю вясною
У яшчэ нязнаныя палі.

# Юнацкі сьвет

Б'е сьвятло ў вакно прыбоямі,
Малажавіцца оусьвет,
Юнай раніцай упоены,
Як расою макаў цьвет.

Пеўні зычнымі гарлянкамі
Вёску ўзьнялі з забыцьця,
І над ціхімі палянкамі
Забруіўся гімн жыцьця

Каміны слупамі дымнымі
Хаты вычубілі ў вышь.
Гладзь мая ты неабдымная!
Як і я ты не маўчыш.

Мы з табою—сьвету атомы,
Нас адзін з ім лучыць ніт.
Ці ня з гэтага і хатамі
Узорван буйства дынаміт?

Ці ня з гэтага прыбоямі
Б'е сьвятло на юны сьвет?
Усім захоплен, ўсім упоены,
Як расою макаў цьвет.

В. Навадворцы,
Случчына.

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15 000



### На прызьбе

## Каб больш рабіць як, гаварыць

І. Сярмяжны.

Кніга вёсцы!

Гэты лёзунг нават абрыдаў, а кнігі тое як ня было, так і няма. Праўда, трэба сказаць, што цяпер у шмат якіх вёсках ёсьць гурткі моладзі, якія вольны свой час стараюцца правесьці за кнігай, што кожная вёска выпісвае газэты. Але патрэбы вёскі ў кнізе далёка не задаволены, яны задаволены ўсяго на якіх 10-15 процантаў.

Хто жыве ў вёсцы можа наглядаць такія зьявішчы:

У 1923-4-5 гадох моладзь вёскі зварухнулася, як-бы сюды нехта ўліў струмень новага жыцьця. Гэта можна было заўважыць у кожнай самай адсталай, самай цёмнай вёсцы. Уся моладзь пачала гуртавацца навокал хат-чытален, клюбаў, комсамольскіх ячэек, сельсаветаў. Гэта зварухнула моладзь тое новае, што дала Кастрычнікавая рэвалюцыя вёсцы: хаты-чытальні, клюбы, чырвоныя куткі, бібліотэкі, а разам з гэтым і вясковыя тэатры. Мы бачылі, што сама моладзь стала ініцыятарам будаўніцтва новага быту.

Але ці льга адразу ўсё зрабіць? Па вёсках яшчэ вельмі моцна пануюць карцёжная гульня, п'янства, хуліганства... Ніхто ня кажа, што цяпер у вёсцы поўны занапад, але поўнасьцю няма тае ініцыятывы, якая патрэбна. Калі прыходзіцца сіламі комсамолу склікаць сход моладзі, конфэрэнцыю моладзі, дык трэба так расьпінацца пакуль зазавеш да сябе моладзь, ня лічачы актыву сялянскай моладзі. А актыву гэтага ў сельсавеце 10-12 чалавек.

Чым тлумачыцца гэты занапад? Вельмі проста. Адсутнасьцю кнігі. Калі насьля Кастрычнікавае рэвалюцыі ўпяршыню зьявіліся ў вёсцы: кніга, чырвоны куток, хата-чытальня, гэта сьвежая здаровая новая плынь, уліўшыся ў сялянскія гушчы, захапіла ў асабістасьці моладзь. Комсамол і больш перадавая моладзь павялі за сабой адсталую сялянскую мо-

ладзь, організаваліся розныя гурткі, лікпункты і г. д. Але бяда ў тым, што прывезеныя кнігі ў 23-4 годзе засталіся без папнаўленьня і зьмены. Гэта і адштурхнула моладзь ад хат-чыт., чырвоных куткоў і інш. А каб нашы культасьветныя ўстановы паклапаціліся даць вёсцы новых кніг, ня пусьціць апасьці гэтаму ўздыму, то наша вёска стаяла-б на шмат вышэйшым культурным узроўні як цяпер. Вось прыклад, я яго бяру па сваім Астр.-Гарадзецкім раёне, тым раёне, які гэтак блізка знаходзіцца ад Менску.

У Прылепскім сельсавеце ёсьць хата-чытальня. У 23-4 годзе там кожны тыдзень было біткам набіта сялян, асабліва моладзі. Цэлая чарга стаяла перад бібліотэкай за кніжкамі, амаль праз кожныя 2-3 тыдні ставілі спэктаклі. У в. Дуброве ўся моладзь па нядзелях зьбіралася вечарамі ў школу, дзе працавалі розныя гурткі, меўся чырвоны куток, часта ставіліся спэктаклі. Што мы бачым цяпер? Тая-ж х.-чыт. стаіць пустэльняю (у апошні час сяк-так згарусьцілі радыё, і то рэдка хто зойдзе паслухаць). Члены актыўнейшыя, розных гурткоў пашлі хуліганіць, сядзіць хатнік, атрымоўвае ў м-ц 40 р. і піша ў м-ц 10 заяў і ўся яго работа. Ёсьць бібліотэка, дзе ёсьць некалькі экзэмпляраў «Бел. Раб. і Сял.» за 26-7 год, «Плуг» 25-6-7 год, «Изба-Чит.» за мінулыя гады і некалькі розных брашур. Гэтыя кнігі ўжо па дзесяць раз перачытваліся, а цяпер па іх вучацца чытаць мышы. Выпісваецца некалькі газэт, дык газэтай ня прыцягнеш у х.-ч., у кожнага свая газэта ёсьць дома. Тое-ж самае творыцца і па ўсіх хатах-чытальнях і чырвоных кутках па ўсім раёне. Пры Астр.-Гар. нардоме ёсьць раённая чытальня, і на літаратуру па каштарысе РВК адпушчана столькі сродкаў, што ледзь-ледзь хапае на выпіску газэт, —а між іншым колькі ў РВК неэканомных выдаткаў, чаму-б не пашырыць фонд на літаратуру(!) Яшчэ дзякуй, што саюзы злажылі сваю літаратуру ў чытальню, дык крыху старых кніг ёсьць, а папытай-што небудзь з навейшае літаратуры, дык зразу адрэкамэндуюць—«няма».

І гэта ўсё ў перыяд культурнай рэволюцыі. Трэба ведаць, што мы ваюем за псыхіку чалавека, і ні штрафам і прымуспрацай не адвучыш гнаць самагонку і сеч самадумна лес не адвучыш; дзеля гэтага трэба прыняць другія захады, і калі селянін гоначы самагонку будзе разумець, якую ён робіць шкоду, то ён больш гэтага ня зробіць.

Дзеля таго, каб перавыхаваць наша пакаленьне, дык голай агітацыі і газэт мала, трэба задаволіць кнігай, каторая-б у штодзённым жыцьці была і падручнікам і крыніцай псыхалёгічнага выхаваньня. А ў вёсцы на кнігу, асабліва на мастацкую літаратуру, ёсьць вялікія запатрабаваньні, аб гэтым, нам можа сьведчыць адзіны прадстаўнік літаратуры ў вёсцы гэта «Чырвоны Сейбіт», які чытаецца з-захапленьнем ня толькі моладзьдзю, а нават і дарослымі. Вядома, тут пытаньне стаіць ня толькі аб мастацкай літаратуры, а, наогул, аб літаратуры, аб кнізе вёсцы.

Мне здаецца, што ў гэтым вінаваты мясцовыя культасьветныя ўстановы і РВК. Трэба пашырыць культфонды і глядзець за тым, каб гэтыя сродкі пашлі на карысныя культпатрэбы, а ня то, што трацілі дзесяткі, а пад час і сотні рублёў, на якія-небудзь рэволюцыйныя сьвяты, на ільлюмінацыі, упрыгожаньне вуліцы, а на заўтра-ж гэта ўсё пойдзе ў сьмяцьцё. Лепш было-б, каб у дзень якого-небудзь сьвята—дзень коопэрацыі, 1 мая— паднесьлі 100 карысных кніжак вёсцы, чым кідаць гэтыя грошы ў сьмецьцё. Тое-ж пад час робіцца і з нашымі шэфамі.

Наогул, на гэту справу трэба паглядзець сур'ёзнымі вачыма, і ў парадку самакрытыкі зжыць гэтыя недахопы. Трэба паставіць пытаньне так, каб лёзунг «кніга вёсцы» быў сапраўды ажыцьцёўлен.

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000

# ШЛЯХІ

## Поэма

Рыгор Папараць

Шляхі, шляхі, мае, вы сьцежкі,
Дзе вузел ваш той раздарожны?..
Вузей вы вузкага поўмежку,
З-за вас гаруе падарожны.
Шляхі няроўны ў чалавека,
Няроўны так, як дні у восень—
Адзін з расолам, трэйці з млекам,
Чацьвёрты парыць сабе дросень...
І так шляхі, шляхі па сьвеце,
Шляхамі зблытана планіда,
Гайсае вечна па іх вецер,
А нас вядуць ўсіх да віда.

I.

Плакала, енчыла маці па сыну,
Як плача у восень рабіна—
Моц усю сілу каса падкасіла,
Больш ня прыпесьціць хлапчыну.
Хочацца беднай, старэнькай матулі
З сынам сваім разьвітацца,
З сынам гаротным... жаданьні заснулі...
Ў вачу адны здані імжацца:
— Ці бачыш дачушка, ці бачыш, Марына,
Што бацьку пусьцілі... Рыгорка...
Сыночак мой любы... На што дамавіна?..
Бяжыце!.. Палякі за ўзгоркам.
Так хворая блузьніла маці на печы,
Шаптала, як колас у полі...
Да раньня сканала, сканала бяз сьвечкі,
Як бацька з сынамі за волю.

***

Адзін я сягоньня, адзін
Пад шатамі сосен і ліп,
Тут думак гусіны уздым
Мне каменем к сэрцу прыліп.
Ці чуе, ці ведае матка,
Што сын яе помстай жыве?.,
Галосіш ты недзе да ранку,
Папошчыцца сэрца ў журбе.
Адна ты як тая былінка...
Расстрэляны бацька і... брат...
— Браточкі...
Падходзіць часінка ў дарогу...
Маёнтак спаліце,
А збожжа... сялянам раздаць!
Ня ўсьпеў яшчэ крыкнуць Рыгор,
Як верныя молайцы ў зборы...
— Браточкі!.. Пакінем мы бор...
Браточкі, к аружжу, да зброі!
І раптам разьнесьлася ржаньне,
Пад дзынканьне шабель і кос...
Усе зарава звалі сьвітаньнем,
Сялянскі ішоў сенакос.

***

Гарыць палац... Трашчаць сьвіронкі—
Рыгорам зроблены пачын.
Набраў у атрад ён хлопцаў ёмкіх,
І ў лес павёў на адпачын.
Рыгор ня сьпіць... Штурмуе вецер.
Сава галосіць сям і там,
Над лесам шаты вечар зьвесіў,
Аб нечым марыць партызан.
У хмарах з хворым тварам месяц,
Фарбуе срэбрам бараду,
У гэты дзень з паненкай летась
Рыгор кідаў вянкі ў ваду.
І ўсё было... Было так проста—
Кахала панна мужыка,
За хілкі стан ня раз ля мосту
Трымала жорсткая рука.
І з кожным днём каханьня нарасьць
Віла часойкі на клубок...
Аб чым Рыгор ля хвойкі марыць,
Чаму так сумен яго зрок?..
У гэту ноч з князямі справу,
Павінен выканаць Рыгор—
Ён хоча ўсё да званьня стравіць,
Дзе двор завецца „Сіні Бор“.

II.

Маёнтак быццам бы маёнтак,
Але ня скажаш гэта двор—
Хутчэй на места ён падобен,
Маёнтак князя „Сіні Бор“.
Тут спокан веку род Кашэўскіх
У „павазе“ быў сярод сялян—
Расьлі ахвяры з кожным годам
Як-бы ў ячмені дурнап‘ян.
Жылі багі... сьвятая й праца
Была ў іх кожны дзень адна—
Крыжы на могілках стаўлялі,
Жанчын цягалі да відна.
Гадоў мо‘ сто, як прадзед князя
Няверну жонку пакараў—
Каханьне з парабкам дзяліла—
Жыўцом у мур замураваў.
Такі нахіл, такую здольнасьць
Дала ім спадчына усім—
Пілі, гулялі, сук мянялі,
А чорнай косткі галасіў.

***

Загарэліся ясна агні...
Князь Кашэўскі занадта вясёлы—
„Бялы Ожэл“ апошнія дні
Аблятае мужыцкія сёлы
Загарэліся ясна агні...
У сумоце глядзіць камяніца,
Зьвіняць шпоры апошнія дні,
Тут балююць, ня ждуць навальніцы.
Загарэліся ясна агні,

У палацы Садом і Гамора,
Топяць ў чарках апошнія дні,
Пасьля чаркі князь гэтак гаворыць:
„Панове паручнікі!
Благаславенства маткі
Вострабрамскай прышло на нас...
То ест няпраўда,
Што ў Менску большэвікі—
Яны ля Бранску...
Сказаў фурман мне Апанас.
Цяпер нам трэба зрабіць аблаву—
Мяцеж мы спынім мужыка.
О, добры Езус цябе мы ўславім",
І прагла келіх бярэ рука.
Яго прыкладу з пашанай госьці
Зрабілі так, як гаспадар,
Але ў палац ўляцеў чагосьці
Зьбялеўшы Юзаф—сакратар
Усім задаў ён стольні пуду...
Аж князь падлез пад самы стол,
Падняли вэрхал, такую жуду
Як-бы там чэрці дралі століь.
Але тут неяк набраўся сілы
І крыкнуў князь сакратару:
„Дагатуль д'ябла дзе насілі...
Забыў ма'быць сваю пару?.."
„О, княжжа сьветласьць, ясны пане,
Прынёс навіны я ў пару—
Жаўнеры з войтамі ня спалі,
Да вас вядуць Рыгор Пчалу.
Спаліў на полі сьціртьі з хлебам,
Ды йшоў ў сьвіронкі ён па хлеб"..
„То хваце скурва... прэнтка зьбегай...
Скажы, няхай запруць у склеп"...

. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . „Панове!
Віно хай ліецца ракою,
Зьвініць наймацней хай пасуда,
Мяцежніку ўласнай рукою,
Падпісана будзе прысуда".

III.

Сягоньня
трэйці
дзень...
Праб'е
гадзіньнік
пяць—
І стане
сьмерці
цень
Ад радасьці
скакаць.
Сягоньня
трэці
дзень...
Ня будзе
лёсам
пяць
Крадзецца
ціха
цень
Рыгора
ратаваць.

***

Старана ты мая старана,
Расквітнее твая шчэ угадзька...
А сягоньня мяне кляніна,
Аб'вянчае, як брата і бацьку.
Кроў у жылах і стыне і млее,...
Дзьверы рыпнуць і зьвяжуць каты.
Што з таго?.. жыве праца, ідэя,
Для ідэі ня робяцца краты.
На народ я кладу ўсе надзеі,
Засталіся ў народзе Рыгоры...
Памаленечку скрыпнулі дзьверы,
Увашоў вартаўнік у пакоры.
«Ня пужайцеся... вы зараз вольны,
Вам вузельчык і ліст ад княгіні,
За гумном вас чакаюць там з коньмі,
Ў разьвітаньне букецік каліны»...

. . . . . . . . . . . . . . .

## Ліст

Каханы, мой любы Рыгорка,
Пішу гэты ліст крадучыся.
Чаму так на сэрцы сьцюдзёна і горка,
Скажы мне... на што ты пусьціўся?
За дзеі, шалёныя крозы
Цябе напаткала цямніца,
На персях дзявочых мігцяць ў мяне
сьлёзы,
Як тыя з расою брусьніцы.
Каханы, мой ясны саколік,
У сэрцы адно застанецца,
Ня раз маёй думкай прысада із хвоек
Журбою ў душы страсянецца.
Там першы я свой пацалунак
Табе аддала як ахвяру
За здольны, музычны малюнак,
«Стаялі мы тварам да твару».
А потым... ты кінуў і скрыпку...
Пакінуў мяне гэтак сама...
І ў рэшце між пальцаў было ў цябе
ліпка,
Крывавая звабіла справа.
Каханы, мой мілы ты голуб,
Ня хочу цябе вінаваціць...
Аддаўся ідэі... змагайся за голых—
Бо ў справе жыцьцё людзі бачаць.
Сягоньня пакінуў-бы краты...
У ноч, калі зоры ня сьвецяць—
Загад-бы татуські выканволі-б каты,
Вялі-б майго голуба вешаць.
Каханы, мой любы Рыгорка,
Я варту тваю падкупіла.
Хай шлях асьвятляюць зоры-сьвядзёлкі
Ляці мой саколік.

Эльвіна.

Пас. Ульянава
Меншчына.

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000

# Ліст з цэмантовае кадушкі

Хаяма Йосікі *)

Мацуда Іодзоо працаваў над адчыненьнем кадушак з цэмантам.

Нішто ў ім асабліва ня кідалася ў вочы, толькі валасы і вусы яго былі заўсёды ўкрыты пылам. Ад гэтага пылу валасы ў носе зьліпаліся і цьвярдзелі, нібы жалеза-бэтонны мур і хацелася запусьціўшы глыбей у нос палец адчысьціць яго ад бэтону. Але бэтонная машына плявала па ўзесяць раз у хвіліну, адставаць ад яе было нельга і таму ня было зусім часу на тое, каб данесьці палец да ноздры. Турбуючыся аб сваім носе на працягу адзінаццаці гадзін (за гэты час адпачывалі толькі два разы: паўгадзіны на абедзэны перапынак і дзесяць хвілін—пасьля трох гадзін дня; але ў поўдзень—таму што хацелася вельмі есьці, а яшчэ—што трэба было чысьціць машыну—ня было вольнага часу—і рука так і не магла дацягнуцца да носу)—ён усё-ж такі ня мог яго вычысьціць і яму здавалася, што нос цьвярдзеў нібы вылеплены з гіпсу.

Рабочы дзень блізіўся да канца. Цяжка варочаў зацёкшымі рукамі Мацуда, выпаражняючы кадушку, калі з цэманту паказалася маленькая драўляная скрынка.

— «Што-б гэта магло быць?—зьдзівіўся ён, але разглядзець яе добра было некалі.

Варочаючы лапатай, ён адмяраў цэмант у скрыню. Потым падкідаючы цэмант з скрыні па драўляным жолабе ў машыну, шпарка стаў выпаражняць бочку.

Гм... У цэмантовай кадушцы—скрынка... Неяк дзіўна.

І ён падняў скрынку і засунуў яе ў харагаке [1]). Скрынка была лёгкая...

Калі яна такая легкая, грошай у ёй, вядома, быць ня можа —падумаў ён і раздзвіўшы чарговую кадушку стаў зноў кідаць цэмант.

Урэшце машына закруцілася вольна. Бэтон скончыўся. Скончыўся і рабочы дзень. З гумавае кішкі, па якой падавалі ў машыну воду, Мацуда зьлёгка паласнуў твар і рукі і прывязаў на шыю фуросікі [2]) С заверчанай скрынкай з-пад бэнто [3])—і пайшоў да дому, думаючы толькі аб тым, як бы паесьці і выпіць.

У зіроку, узьнімаючыся высока ў неба, з сьнежнай шапкай, бялела Энаяма [4]) Яго ўпацеўшае цела абхапляў холад.

Унізе ў ноч, бурліла каламутнай пенай і Кісогава [5]).

— Цьфу! Няма ніякага цярпеньня. У бабы ізноў жывот расьце, ды яшчэ... і думаючы аб шасьці хлапчуках, якія капошацца дома, і аб сёмым, які як на злосьць зьбіраецца нарадзіцца ў самыя халады, і аб бабе, якая кожны год раджае дзяцей, ня лічачыся ні з чым,— Мацуда занудзеў.

З маленькага дзеннага заработку трэба плаціць за рыс, а на нязначную рэшту апранацца і жыць з усёй сям'ёю.

— Ах чорт!.. І выпіць не за што!.. —вылаяўся ён і раптам успомніў пра скрынку, якая была ў яго кішэні. Выцягнуў ён яе, выцер аб порткі ззаду наліпшы цэмант. На скрынцы ня было ніякага надпісу. Скрынка была моцна забіта цьвікамі.

— Бач—ты, наумысна мусіць, каб людзям галаву памарочыць—цьвікамі забілі...—ён стукнуў скрынку аб камень, але скрынка не разьбілася. Тады, у такім настроі, што хацелася стаптаць нагамі ўвесь сьвет, Мацуда з усёй сілы наступіў на скрынку нагой.

З раздаўленай скрынкі выпаў кава-

---

*) Хаяма Іосікі—японскі пролетарскі пісьменьнік.

[1]) Харагаке—вялікая кішэня на жываце ў кароткім хвартусе японскага рабочага.

[2]) Фуросікі—вялікая хустка, у якую японцы завяртаюць дробныя рэчы.

[3]) Бэнто—яда з рысу і салёнае гародніны.

[4]) Энаяма—гара ў раёне Асакі.

[5]) Кісогава—рэчка ў тым самым раёне.

лак паперы, закручаны ў абрыўкі рызьвя. Вось што было на ім напісана:

«Я, работніца на № цэмантовым заводзе, шыю мяшкі для цэманту. Мой любы працаваў каля драбільнай машыны—кідаў туды для раздробу каменьне. Раніцою сёмага лістападу, пхаючы ў машыну вялікі камень, ён разам з ім упаў у машыну. Таварышы кінуліся на дапамогу, але было позна. Разам з каменьнямі—машына раздрабіла яго цела і выкінула дробнымі акрываўленымі кавалачкамі ў другую машыну.

...Там між сталёвымі лопасьцямі, у жудасным громе жалеза, змалола на парашок яго разам з каменьнямі. Потым,—абпалілі ўвесь гэты парашок і стаў добры цэмант. І косьці, і цела, і душа яго сталі—цэмантавым пылам... Толькі рызьвё рабочай вопраткі —вось усё што засталося ад яго.

Я пашыла мяшок, куды ўсыпалі майго любага. Ён—стаў цэмантам.

Я напісала гэты ліст і—раніцою паціху паклала яго ў кадушку. Вы, напэўна, рабочы? Калі рабочы, пашкадуйце мяне, дайце адказ. Я хачу ведаць, куды пойдзе цэмант з гэтае кадушкі, цэмант з майго любага. На што пойдзе гэты цэмант?..

Ці зробіўся мой любы калідорам ў тэатры, ці цэмантовай агароджай багатага дому?.. Не магу вытрымаць, бачыш... Але як я магу перашкодзіць гэтаму? Калі вы рабочы, не выдавайце гэты цэмант на такія будоўлі!.. Але-ж не! Усёроўна!.. Рабеце, як ведаеце, дзе-б ён ня быў, мой любы, ён будзе добрым мурам! Нічога! Пры жыцьці ён працаваў бяз зморы' добра і апошнюю службу адслужыць...

Ласкавы, добры ён быў чалавек. Але разам з гэтым цьвёрды і мужны. Яшчэ малады быў. Толькі дваццаць пяць гадоў. Ня ў труну ён лёг, а цэмантам у распаленую печ.

Як я пайду праводзіць яго? На Заходзе і на ўсходзе і далёка і блізка ў цэманце васкрасае ён...

Калі вы рабочы—вы сапраўды напішаце мне. За гэта я дарую вам кавалак рабочай вопраткі майго любага.

Гэта ў яе загарнула я свой ліст. Каменным пылам і потам прапітаны гэты абрывак. Як моцна ён абыймаў майго любага.

Прашу вас, паведаміце мне дзень і месяц, калі вы выкарыстаеце гэты цэмант, дзе і на якую частку будынку, і ваша прозьвішча напішаце мне, калі гэта льга. І таксама беражыце сабе. Усяго добрага жадаю вам.

Мацуда Іодзоо апамятаўся дома, пачуў галасы дзяцей, якія скакалі каля яго. І гледзячы на прозьвішча і адрас, якія былі прыпісаны ў канцы ліста, ён перакуліў адным духам у себя чашку сакэ[1])

— Напіцца хачу,—а потым разнесьці ўсё к чорту!—гукнуў ён.

— Ну нап'ешься, набуяніш, на работу ня выйдзеш, а мы як... Што будзе з дзецьмі?...—сказала жонка.

Ён паглядзеў на вялікі жывот жонкі і бачыў у ім сямімесячнае дзіцянё.

*Пераклад з японскае мовы К. Т.*

---

[1]) Японскае хмельнае піва.

# Ночка—таямніца

**С. Ліхадзіеўскі**

Ночка—таямніца
Завітала зноў.
Валаконцы зьвісьлі
Сівых тумаоў.

Зоркамі сьмяецца
Неба з вышыні
Над лугоў прасторам,
Над абшарам ніў.

Сьпяць у сьне салодкім
Ціхія палі.
Сьвет увесь навокал
Цішынёй заліт.

Дыямэнты ўпалі
Ды на шоўк—траву.
Белыя бярозкі
Раніцу завуць.

Вось такой парою,
Калі зорак шмат,
На начлег паехаць
Лепшага няма!

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000

# Жонка

**Максім Лужанін**

*Паявчэрамі.. Ў поле пайшлі,*
*дзе віюцца зялёныя сьцежкі...*
*З прывітаньнем ад чорнай зямлі*
*каласы папрыходзілі пеша.*

*Запыталіся вочы ў вачэй,*
*адказалі вячорныя далі...*
*І бруіцца ў паветры яшчэ:*
*— Маладзы мой!—Мая маладая!*

*Быццам штосьці памерла навек,*
*ня было гэтак дзіўна ніколі:*
*чалавека сустрэў чалавек*
*і ўвесь сьвет замыкаецца ў кола...*

*Надыйшло невядома адкуль,*
*і шкада, што ня веру ў цуды...*
*Ты ня стрэнеш мяне на раду,*
*маці болей сварыцца ня будзе...*

*Не абстрыгла зара палыны,*
*апазьніліся строгія судзьдзі:*
*гэтай першай шчасьлівай маны*
*не дазналіся неба і людзі...*

*І далёка, за цёмным млынком,*
*ноч густой повалокаю стыне.*
*Мы паволі ідзем у сяло*
*і гаворым паціху аб сыне.*

В. Прусы
Случчына



У палескіх нэдрах

# На Палесьсі

**П. Зянькевіч.**

Вёска Буйнавічы, Лельчыцкага раёну, знаходзіцца ў самым аддаленым раёне ад Мазыра, дзе няма ні чыгуначнага ні воднага шляху; дзе ні глянь—лес і балота, якія цягнуцца, аж да Пінска.

Тугавата ўстанаўляецца ў вёсках новае Расказваюць дзядзькі, што ў старыя часы да рэвалюцыі, акрамя пісара старшыні да ўрадніка нікога болей ня бачылі. Ды бывала поп разы тры ў год зьбіраў людзей і чытаў сваю пропаведзь, аб жыцьці сьвятых і веры ў бога. Цяпер

старое патроху адмірае. У царкву ходзяць менш. Ёсьць хата-чытальня, куды вечарамі зьбіраецца моладзь.

Моладзь цікавіцца мастацкай літаратурай. Але, на жаль, у бібліятэцы кніг ёсьць зусім мала, а большасьць кніжок гэта кампанійскія брошуры. Кожны раз пытаюць: калі нам вышлюць кніг, а іх няма. Як відаць адпаведныя організацыі мала зварочваюць на гэта ўвагі. Асабліва ў зімні час кожнага вечару шмат зьбіраецца моладзі ў хату-чытальню. Але асьветнае працы мала.

У дзяўчат ёсьць жаданьні стварыць гурток шыцьця і кройкі, але на гэта няма ніякіх сродкаў, а кіраўніка дармова знайсьці цяжка.

У вёсцы Астражанцы сродкі ідуць на дзіцячую пляцоўку, кіраўніку плацяць 46 руб. у месяц, а ён нічога ня робіць. Мае штук 10 дзяцей і гэта ўсяго. Працу трэба шырэй разгарнуць, каб пляцоўка не пуставала; тут-жа няма хаты-чытальні і дзядзькі за 15 верст ходзяць пісаць заяву альбо атрымаць якую-небудзь даведку. Няўжо ня можна РВК паставіць пытаньне, каб сродкі, якія ёсьць, абярнуць на організацыю чытальні, мэдпункту...

У Буйновічах ёсьць спажывецкая коопэрацыя, дэфіцыт якое стварыўся ў часы працы старога праўленьня за 1926-1927 г.—3.903 руб. Даўгоў раздадзена 2-3 гады таму назад 1.400 руб. Ёсьць і растраты, але чамусьці да гэтага часу няма ніякага суда над растратчыкамі. Таму і цяжка цяпер наладзіць працу коопэрацыі і аўтарытэт яе сярод сялян невялікі.

Трэба зьвярнуць увагу і на сельскую гаспадарку. Апрацоўка зямлі тут кепская. Зямля ўся параскідана па лесе і гаспадары гады тры засаб сеюць у адным мейсцы, потым кідаюць, каб выгулялася зямля—кажуць, што болей ня хоча расьці. Лубіну ня сеюць і аб яго карысьці мала ведаюць, бульбу сеюць толькі ў кожную баразну, на што цэлую весну і пачатак лет ідзе шмат працы—акопваць уручную матыгамі, да таго-ж заўсёды няважны ураджай.

Калі пачынаеш гаварыць аб лепшай апрацоўцы поля і вядзеньні гаспадаркі, дык кажуць—к нам хіба прыслалі-б лепшых гаспадароў, адкуль-небудзь з другіх мейсц, дык яны-б навучылі нас гаспадарыць. Тут-жа ў вёсцы жыве аграном, у якога ёсьць плужкі, якія нікім не скарыстоўваюцца. І мала хто ідзе да агранома за парадаю.

Дзядзькі цяпер скардзяцца, што на сенажацях няма зусім чаго касіць, не парасла трава, а кожную вясну да паловы траўня пасуць па сенажацях скот, а навокал такі вялікі прастор лесу і ёсьць дзе пасьвіць. Гэта робіцца затым, што вялікая вёска; мы-б і хацелі на пасьвіць, кажуць дзядзькі, але-ж другія ўсяроўна пасуць. Няўжо ня можна тут забараніць пасьвіць жывёлу па сенажаці хаця-б вясной?

Некаторыя сяляне выпісваюць газэту. За сродкі ад самаабкладаньня з восені гэтага году пачынаецца будавацца клюб. Але сюды трэба я шчэ накіраваць усю увагу, каб узьняць да новага жыцьця гэты закінуты край.

**Вёска Буйновічы.**

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**А. СЕЧКУ** Вы просіце, каб надрукалі Ваш партрэт. Няма ніякае ні прычыны, ні патрэбы рабіць гэта. Што-ж да вашых вершаў, дык яны нічым асаблівым не вызначаюцца. Вы трохі заўладалі тэхнікай вершу, але што-ж, калі нічога Вашага ў Вашых вершах няма. Пра месяц, пра вечар, пра вербы над рэчкаю сотні аўтараў лепш пішуць за Вас, ды і то няцікава чытаць. Трэба вучыцца пісаць „па-свойму", сапраўдны поэт мае сваё «я» ў кожнай рэчы.

**ТАРАТУТКУ, ШЫДЛОЎСКАМУ, КОРБУТУ, І. ЛІСІНУ, МАКАРЭНКУ**—вершы вашы вельмі слабыя і друкавацца ня будуць.

**М. РАКАВУ.** Верш Ваш вельмі цікавы па тэме. Цікавыя ёсьць у ім вобразы, параўнаньні. Але ўсё гэта губляецца ў вельмі слабой тэхніцы вершу—і рыфмы слабыя і мясцамі ня вытрыманы рытм. Калі ў Вас ёсьць больш творы, дык прышлеце, тады льга будзе больш падрабязна адказаць Вам.

**М. БУТРАМЁНКАВУ.** У вас ёсьць літаратурныя здольнасьці. Сачыце за чыстатою мовы. Ваша поэма нас зацікавіла. Будзе падрабязны адказ лістом.

**П. КЛЕНІКУ.** „Міхась партызан"—не апавяданьне. Гэта нейкі жыцьцёпіс, напісаны як звычайная корэспондэнцыя. Корэспондэнцыі Вы і пішэце.

Адказны рэдактар
ШУКЕВІЧ-ТРАЦЬЦЯКОЎ

Друкарня „Зьвязды", Менск, Савецкая, 63. Галоўліт № 304.

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000